ТОЛЬКІ У НАС! TV СПАДАРОЖНІКАВАЕ! ● БТ, РТР, Астанкіна, НТБ С.-Пецярбург, Польшча-1, Польшча-2.

**МАСАЖ ПА-ГАРАДЗЕНСКУ**



*Адзін супрацоўнік медінстытуту прымаўпрастытутак проста на месцы працы.*

ст. 3

**... І ДВА ДЫРЭКТАРЫ**



*Літоўскі дырэктар, Генрыкас Поцюс, і беларускі, Аляксей Сібірцаў (на здымку), на адзін голас божацца, дзей яшчэ не нарадзіўся і ніколі не народзіцца той чорны кот, які прабяжыць паміж імі.*

ст. 7

НАДВОРЕ

У выходныя будзе хмарна, з праясьненьнямі. Магчымыя кароткачасовыя дажджы. Вецер паўднёва-заходні, 5-10 м/сек. Тэмпература ўначы +2-7 градусаў, удзень - +8-13.


# ПАГОНЯ

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 42 (189) • 18 – 24 кастрычніка 1996 г. • Кошт свабодны

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА


## «МАЯ ГОРАДНЯ» Ў СТАРЫМ ПАРКУ





Фота У.УЛАДАСЕВІЧА

**У мінулую нядзелю грамадзкае аб'яднаньне «Ратуша» правяло ў рамках праекту «Наш Дом - Беларусь» конкурс дзіцячых малюнкаў на асфальце «Мая Горадня».**
**На здымку: адна з пераможцаў конкурсу Анечка Панева і яе мама Алёна Юр'еўна.**

**Больш падрабязна аб гэтым чытайце на ст.8**

## ЯШЧЭ АДЗІН СПОСАБ «СУМЛЕННА» АДАБРАЦЬ ЧУЖЫЯ ГРОШЫ

**За стаянку аўтамабіляў на ўзбочыне Індурскай шашы, што каля рынку ў пасёлку Паўднёвы, трэба плаціць 10 тысяч рублёў. Пераехаць для стаяньня ў іншае месца немагчыма, таму што ўсё скрозь абвешана забараняльнымі знакамі, у тым ліку - і супрацьлеглая ўзбочына.**

Цікава, ці ўзяло ДАІ за такую ласку з гаспадароў рынку адпаведны працэнт ад прыбытку? Ці нельга нам, рэдакцыі газеты «ПАГОНЯ», дамовіцца і «ўзяць пад ахову» 50-100 метраў вуліцы Дамініканскай у Горадні, якраз насупраць нашых вокнаў? За намі не заржавее...

## АГРАНОМЫ ВЫБІРАЮЦЬ МЫТНЮ

Калгасы і саўгасы памежных раёнаў Гарадзеншчыны засталіся без кваліфікаваных сьпецыялістаў. Аграномы і ветэрынары парабіліся мытнікамі. Каб выправіць становішча, старшыня аблвыканкаму Аляксандр Дубко прапаноўвае Гарадзенскаму сяльгасінстытуту рабіць мэтавы прыём на вучобу хлопцаў і дзяўчат з Воранаўскага, Астравецкага, Ашмянскага і Смаргонскага раёнаў. Але хто прымусіць маладых людзей пасьля сканчэньня навукі працаваць у калгасе?

## ЧАМУ БЕЛАРУС БЕДНЫ?

У параўнаньні з мінулым годам, колькасьць беспрацоўных у Гарадзенскай вобласьці павялічылася на 50 працэнтаў. На ўліку службы занятасьці зарэгістравана 25 тысячаў чалавек, што ў сярэднім складае 4,1% ад усяго насельніцтва прынёманскага краю. Больш за ўсё беспрацоўных у Смаргонскім раёне - 9,1%. У Ваўкавыскім - 5,5, Астравецкім - 5,2%. Цяжка знайсьці працу ў Скідлі - 7,3% жыхароў гэтага гораду ня маюць афіцыйнага заробку. Сярод гарадзенцаў 5,3% беспрацоўных.

Толькі 13,5 тысяч беспрацоўных вобласьці атрымваюць грашовую дапамогу ад дзяржавы.

## КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ ЯК Ў ВОДУ ГЛЯДЗЕЎ

**Яшчэ зусім нядаўна у Смаргонскім гарвыканкаме жыльлёвы аддзел складаўся з двух чалавек. Сёньня замест яго створана новая структура - Управа па жыльлёвай і камунальнай гаспадарцы, у штаце якой ўжо чатыры чалавекі. А ўзначальвае ўправу - Баляслаў Чайкоўскі, што некалі працаваў інструктарам гаркама КПБ.**

На аднаго работніка павялічыўся штат і мясцовага райвыканкаму -уведзена адзінка яшчэ аднаго намесьніка старшыні. Гэтую пасаду заняў Аляксей Апановіч, які таксама раней працаваў у гаркаме КПБ.

Як тут не ўспомніць першы нумар «Мужыцкай праўды», якая ў 1862 годзе пісала: «Парабілі пісараў, пасярэднікаў, а ўсё за мужыцкія грошы,і вялікія грошы - чорт іх ведае навошта... А з гэтага то відаць, што нам нічога добрага і ня думалі зрабіць».

Ці думаў Кастусь Каліноўскі, выдаючы газету, што гэтыя словы будуць актуальныя ў Беларусі і на канцы XX стагоддзя?

## ЕЎРАПЕЙСКІ ЗЬВЯЗ ЗАКЛАПОЧАНЫ

**Стаў ведамы тэкст дэмаршу, перададзенага 16 кастрычніка паслamі Вялікабрытаніі, Італіі, Францыі і Нямеччыны, акрэдытаванымі ў Менску, у Міністэрства замежных спраў Беларусі ад імя Еўрапейскага Зьвязу.**

«Еўрапейскі Зьвяз хацеў бы, каб Беларусь займала годнае месца ў Еўропе, супрацоўнічаючы з еўрапейскімі арганізацыямі. Аднак ён глыбока заклапочаны палітычнай сітуацыяй у краіне, якая ўсё больш пагаршаецца», — гаворыцца у дэмаршы. Паслы адзначаюць, што ў Еўропе спадзяюцца, маўляў абодва бакі канфлікту паміж выканаўчай і заканадаўчай уладамі прыйдуць да кампрамісу. Для таго, каб вынікі рэферэндуму паводле новай Канстытуцыі былі прызнаныя ўнутры краіны і за мяжой, павінна захоўвацца канстытуцыйнасьць усіх працэдур, звязаных з яго арганізацыяй. У прыватнасьці, гэты рэферэндум павінен праводзіцца пасьля ўсебаковых адкрытых дэбатаў, у якіх усе зацікаўленыя бакі маглі б браць удзел і пры свабодным і ўсебаковым асьвятленьні гэтага працэсу сродкамі масавай інфармацыі. «Усякая іншая працэдура, у тым ліку народныя сходы, не агаданыя Канстытуцыяй, і ўсякая спроба перашкодзіць працы парламенту альбо абмежаваць свабоду яго дзейнасці былі б несумяшчальнымі з дэмакратычнымі прынцыпамі, прынятымі ў еўрапейскіх краінах», — гаворыцца ў дэмаршы. "Усякая новая Канстытуцыя павінна адпавядаць міжнародным стандартам (разьдзяленьне ўладаў, сістэма ўзаемакантролю і ўзаемастрымваньня), захоўваць прэрагатывы Канстытуцыйнага суда і парламенту і гарантаваць свабоду слова , друку. У адваротным выпадку, шанцы Беларусі на атрыманьне членства ў Радзе Еўропы могуць рэзка скараціцца». Пад канец паслы, якія прадстаўляюць краіны-члены Еурапейскага Зьвязу, адзначаюць, што гэтая ўплывовая міжнародная арганізацыя гатовая паспрыяць нашай краіне пры ўпэўненасьці ў тым, што Беларусь будзе верная прынцыпам дэмакратыі і прагрэсіўнай эканамічнай палітыкі.

## ВІЛЬЯМ ЗРАБІЎ ЖЭСТ

**На гэтым тыдні, па дарозе ў Маскву, павінен быў наведаць Менск міністр абароны Злучаных Штатаў Вільям Пэры. Аднак, яго візіт быў адменены.**

Як паведаміла «Нью-Ёрк Таймс», адміністрацыя Клінтана хацела б перашкодзіць спаўзаньню Беларусі ў дыктатуру і дамагчыся таго, каб Менск выканаў абяцаньне, дадзенае амерыканскаму прэзідэнту, і пазбыўся ракетна-ядзернага арсеналу. Уплыў Злучаных Штатаў, аднак, абмежаваны. Украіна і Казахстан ужо завершылі сваё ядзернае раззбраеньне і перадалі боезарады Расеі дзеля зьнішчэньня. А Беларусь нямірнага атаму пазбываецца неахвотна.

Вашынгтон таксама турбуецца адносна таго кірунку, у якім цяпер разьвіваецца палітычная сітуацыя ў Беларусі. Лукашэнка зьбіраецца вынесьці на рэферэндум новую Канстытуцыю, якая падоўжыць яго прэзідэнцтва да 2000 году, а потым дазволіць застацца прэзідэнтам яшчэ на 7 годоў, дасьць яму права прызначаць большасьць членаў Вярхоўнага Суда... У гэтай сітуацыі амерыканскія афіцыйныя асобы не выключаюць, што Лукашэнка можа выйграць рэферэндум нават без фальшаваньня вынікаў галасаваньня.

Як палічылі ў Вашынгтоне, прыезд Пэры ў Менск быў бы патрактаваны як рэверанс у бок Лукашэнкі, а адмена візіту будзе расцэнена як крытычны жэст. У Законе аб міжнароднай дапамозе на 1997 год Кангрэс ЗША забараніў усякую амерыканскую дапамогу ўраду Беларусі. Аднак і без таго гэтая дапамога была ня надта вялікая.

## РЭХА «ЛЁЗЬНЕНСКІХ СТРЭЛАЎ»

На прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнку чатыры разы рыхтавалася пакушэньне. Пра гэта паведаміў журналістам пасьля сустрэчы з беларускім лідарам міністр Расеі па справах СНД Аман Тулееў, які знаходзіўся ў Менску з двухдзённым візітам.

Ён таксама адзначыў, што апошні раз спроба пакушэньня адбылася ў горадзе Слуцку Менскай вобласьці, куды Лукашэнка выязджаў у пачатку верасьня.

**Паласа падрыхтаваная паводле паведамленьняў нашых карэспандэнтаў і агенцтва БЕЛАПАН.**

## СПРАВА АБ ЗАКРЫЦЬЦІ «ПАГОНІ» ЗНОЎ АДКЛАДЗЕНА

**Наш візіт у суд Ленінскага раёну Горадні з нагоды іску Дзяржкамдруку аб закрыцьці «ПАГОНІ», які быў намечаны на 18 кастрычніка, зноў пераносіцца. На гэты раз з пісьмовай просьбы намесьніка старшыні сп.Прыгодзіча, якую ён накіраваў у суд. Як высьветлілася, супрацоўнікі камітэту вельмі занятыя, правяраюць «Народную газету».**

Ведаючы пра тое, што днямі другое папярэджаньне ад Дзяржкамдруку атрымала газета «Наша Ніва», міжволі ўспамінаеш незабыўнага Генеральнага сакратара Брэжнева. Ведаючы ягоную логіку, можна сьмела прагназаваць, якой бы рэплікай ён адгукнуўся на гэтую сітуацыю: «Гм...Правяраюць «Народную», а папярэджаньне атрымвае «Наша Ніва»...»

Калі сур'ёзна, дык ствараецца ўражаньне, што ў бліжэйшы час чыноўнікі ня будуць рабіць аніякіх рэзкіх крокаў. Іх дзеяньні цалком залежаць ад падзей, якія разгортваюцца вакол рэферэндуму.

## НЕ АДХОДЗЯЧЫ АД КАСЫ

**У сераду, 16 кастрычніка, адбылася калегія УУС Гарадзенскай вобласьці, на якой быў сам міністр унутраных спраў Беларусі Валянцін Агалец.**

Візіт шэфа запомніўся супрацоўнікам гарадзенскай міліцыі тым, што міністр пад час нарады выявіў лепшых афіцэраў і тут жа падвысіў у званьні аднаго маёра. Маёр стаў падпалкоўнікам.

## РЭДКІ ДЭЛЕГАТ ДАЛЯЦІЦЬ ДА МЕНСКУ

Узмоцненыя нарады міліцыі АМАПу і сьпецназу, выстаўлены 16 кастрычніка на дарозе Горадня-Менск каля Іўя. задача - не дапусьціць прыезду ў Менск дэлегатаў Нацыянальнага кангрэсу ў «Абарону Канстытуцыі, супраць дыктатуры».

## МІЛІЦЫЯ СУПРАЦЬ ШАХЦЁРАЎ

Марш салігорскіх шахцёраў на Менск «Супраць Дыктатуры» прыпынены 16 кастрычніка на самым пачатку. Міліцыя не дала дэманстрантам выйсьці з гораду. Затрыманыя 10 чалавек.

Нагадаем, што пачаўшы марш 16 кастрычніка, шахцёры мелі намер дайсьці пешкі да Менску акурат 19-га...

## ВІЗІТ ЛУКАШЭНКІ Ў МАСКВУ АХУТАНЫ ТАЯМНІЦАЙ

**Пра тое, якую пазіцыю наконт рэферэндуму ў Беларусі мае прэзідэнт Расеі Барыс Ельцын, мы можам даведацца ў бліжэйшыя дні, магчыма, нават, у гэтыя выходныя. Добра ведама, што ніводнага важнага палітычнага кроку ня робіць прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка, не заручыўшыся падтрымкай Масквы. Таму і перад канчатковым боем у галоўнай прапагандысцкай акцыі свайго рэферэндуму - «Усебеларускім сходзе» - А.Лукашэнка 16 кастрычніка зноў наведаў сталіцу Расеі.**

Гэта ўжо ня першы яго візіт па пытаньні рэферэндуму. Але вынікам першага, верасьнёўскага візіту, сп.Лукашэнка быў відочна не задаволены (як памятаеце, тады жаданай падтрымкі ад прэм'ера Расеі ён так і ня ўзяў). На гэты раз прэзідэнт Беларусі паспрабаваў знайсьці паразуменьне (атрымаць «дабро») у прэзідэнта Расеі Б.Ельцына , міністра замежных спраў Я.Прымакова, міністра абароны І.Радзівонава, міністра дзяржбясьпекі А.Лебедзя, зноў жа прэм'ера В.Чарнамырдзіна і, безумоўна ж, самаго патрыярха расейскай праваслаўнай царквы Алексія II. Хаця ўдзел праваслаўнай царквы ў палітычных гульнях звычайным вернікам проста не зразумелы, калі не сказаць, нават, агідны.

Увесь «бамонд» расейскай палітыкі быў відочна заняты сваімі праблемамі: Б.Ельцын - меркаванай аперацыяй, А.Лебедзь і І.Радзівонаў - скандаламі і спрэчкамі між расейскімі генераламі, Я.Прымакоў - пашырэньнем НАТА. Афіцыйнага падтрыманьня планаў А.Лукашэнкі ніхто з вышэйпералічаных палітыкаў так і ня выказаў. Да таго ж прэм'ер В.Чарнамырдзін у чарговы раз нагадаў беларускаму прэзідэнту, што хопіць жыць у доўг Расеі, усе гэтыя раней падпісаныя «нулявыя» варыянты - нішто іншае, як проста палітычныя гульні, а ў эканоміцы за ўсё трэба плаціць.

Тая традыцыя, якая ўсталявалася апошнім часам, - пасьля візітаў у Маскву нашых кіраўнікоў розных уладаў: не паведамляць нічога канкрэтнага прэсе - не была парушана і на гэты раз. На прэс-канферэнцыі А.Лукашэнка часьцей за ўсё паўтараў : «Пытаньні, пра якія я размаўляў, я б не хацеў абмяркоўваць». Што ж, час пакажа. Але ведама яшчэ і тое, калі ў А.Лукашэнкі штосьці атрымоўваецца, то ён любіць «даць раскрутку» гэтай справе на максімум. 16 кастрычніка паведамленьні былі больш чым сьціплыя.





# ДЗЕМБЕЛЬ НЕЎНІКНЁНЫ, ЯК УСХОД СОНЦА...,СЭР

**ЗБУНТАВАНЫ ЧАС - САМАЗВАНСТВА...**

Наступае момант, калі, як той казаў, прамаруджванне - гэта сьмерць. 19 кастрычніка пачне тусавацца так званы Усебеларускі сход, пэўны аналаг славутых камбедаў часоў самай разбэшчанай камуністычнай дыктатуры. Толькі бедных, гэтага найвярнейшага электарату А.Лукашэнкі, там ня будзе. У Менскім Палацы Спорту зьбяруцца пераважна чыноўнікі, выхадцы з наменклатурнай похвы часоў Брэжнева і Сакалова. Яны засвоілі адзіную бясспрэчную навуку: прадай усё і ўсіх, але захавай партфель.

Яны зробяць тое, што захоча ад іх А.Лукашэнка. Яны прызнаюць сябе найлегітымнейшым з легітымных прадстаўнічых органаў на планеце. Яны абвесьцяць ворагамі народу сваіх жонак, а сваіх дзяцей аддадуць у чэкісты, каб мардавалі дзяцей сваіх суседзяў. Яны будуць шыхтам хадзіць па бруку еўрапейскіх сталіц і нахвальваць дамакратыю ў Менску або Ваўкавыску. Яны прымусяць задарма працаваць «жэншчын і мужчын», а самі арганізуюць для сябе сьпецмагазіны, сьпецкурорты і іншыя прывілеі, у тым ліку прывілей таптаць хоць які закон, абы не злаваць Пана Прэзідэнта.

Такім чынам, самазванцы пад маскаю «народнага волевыяўленьня» адобраць разгон беларускага парламанту і, нават, могуць ажыцьцявіць «штурм Зімняга» з зброяю ў уласных руках.

**...ЧАС РАБІЦЬ ГРОШЫ**

Зрэшты, ані Шарэцкі ані Калякін адбівацца,бадай,не захочуць. Бо выйшлі з тае ж вантробы, што і іх агрэсіўна-паслужмяныя Прэзідэнту візаві.

Часова яны перайшлі ў апазіцыю, але не ад прыхільнасьці да дэмакратыі, свабоды і правоў чалавека. Яны гэтаксама даражаць партфелямі. А яшчэ былая камуністычная наменклатура цярпець ня можа ніякай дыктатуры, акрамя, ведама, сваёй уласнай.

Сёньня ім дыктатура не патрэбная. Сёньня ў усіх краінах навокал чыноўнікі становяцца ўладальнікамі ня толькі партфеляў як сімвалаў улады, але ўвасабляюць сваю ўладу ў такія грунтоўныя рэчы, як грошы, нерухомасьць, акцыі і капітал у швайцарскіх банках.

Яны могуць перайсьці на бок А.Лукашэнкі і пераўвасабляць уладу ў грошы без праблем. Але ад Лукашэнкі яны ня будуць мець гарантый і назаўсёды застануцца паўлегальнымі падпольнымі мільянерамі з катэджамі, запісанымі на матку, з машынамі - на жонку, з фірмамі -на даверанных асобаў.

Без А.Лукашэнкі яны змогуць рабіць свой гешэфт легальна. Яны змогуць спадзявацца, што ніхто адвольна не забярэ ў іх маёмасьць, якая пярэйдзе нашчадкам. Яны змогуць прыняць такія законы, якія ня будуць лічыць за злачынства цывілізаваны бізнэс.

Для іх А.Лукашэнка - выкапень часоў Ачакава і ўтаймаваньня Крыму. Сёньня час ня тых, хто шнырыць па кішэнях.

**ВЫБІРАЦЬ З ДЗЬВЮХ КРЫЎДАЎ - ЗАНЯТАК МАРНЫ**

Адзін дасьведчаны чалавек сказаў мне: «...затое Лукашэнка не крадзе - гэта дакладна». Ніхто і ня кажа, што ён ходзіць з фомкаю ці з кісьценем па начных дарогах. Ён усяго толькі стварыў фонд, які ніхто ня ў стане праверыць. Вы можаце ўявіць дырэктара саўгасу ці школы, старшыню выканкаму ці праўленьня ТАА, які б стварыў такі фонд у сваёй гаспадарцы і нікога не пускаў яго правяраць?

Юрыдычная прырода такіх дзеяньняў прымушае шукаць артыкул крымінальнага кодэксу, штосьці накшталт злоўжываньня службовым становішчам, прысвойваньня альбо растраты. Але ня будзем пра гэта, бо ні Пракурор Генеральны, ні генерал міліцэйскі пазабюджэтны «общак» правяраць і не зьбіраюцца. Забудзем таксама пра самалёт, верталёт, параход, лімузін, корт і плот на малой радзіме.

Запытаемся пра іншае. Чаму так павінна быць, што альбо крадзе - але іншым дае жыць, альбо не крадзе - але іншым няма ніякага жыцьця? Чаму такая альтэрнатыва? Чаму нас прымушаюць рабіць выбар: разумны махляр альбо сумленны дурань? Асабіста я ведаю мноства людзей, чыя годнасьць значна перавышае якасьць «сумленны дурань». Зрэшты, кожны з нас ведае сітуацыю: у дурака не дапросішся (належнага), а ў дзялка купіш (таксама належнае).

Так што з дзьвюх крыўдаў навошта аддаваць перавагу найгоршай?

**НАШЫ ПРАБЛЕМЫ КАМУ ПАТРЭБНЫЯ?**

Напярэдадні «сходу самазванцаў», 16 кастрычніка, А.Р. ляціць у Маскву да Б.Ельцына. Хоча даведацца, ці адключыць В.Чарнамырдзін газавую і нафтавую трубу, а калі так - то за што менавіта? Відаць, будзе каяцца за тое, што называў апошнім белавежскім зубром і абяцаў праклёны нашчадкаў. Будзе пераконваць, што пра крамлёўскі трон ня марыць. Будзе гандлявацца: не падтрымаеце - пайду ў НАТА і выклічу з Нью-Ёрку спадара Пазьняка.

Што зьмяркуюць у Маскве? Пры ўсіх акалічнасьцях пераможа нацыянальны інтарэс. На дадзены момант ён такі: трымаць на кароткім ланцужку. Наш паспрабуе ланцужок падоўжыць, скажа: толькі я і толькі цяпер кіну вам пад ногі Беларусь. Крэмль паабяцае падумаць. Ланцужок не падоўжыцца.

Нашыя праблемы прыйдзецца зьмяркоўваць нам самім.

**Сяргей САМАСЕЙ.**

## ДРУГІ РАЗ У ТУЮ САМУЮ РЭЧКУ

**14 кастрычніка ў гарадзенскім аблвыканкаме адбылася сустрэча дэлегатаў на «ўсенародны» беларускі сход. Паседжаньне прайшло ў старых добрых традыцыях савецкіх часоў. Здавалася, што вось-вось нехта з арганізатараў сходу ўстане і скажа: «Сябры, гэта быў жарт! Мы проста хацелі нагадаць вам, што будзе, калі ў Беларусі зноў усталюецца таталітарны рэжым». Але дарослыя, адукаваныя людзі, на поўным сур'ёзе да канца выконвалі сваю ролю ў тэатры абсурду.**

Перад прысутнымі выступіў старшыня аблвыканкаму Аляксандр Дубко. Спачатку ён прыпыніўся на палітычнай сітуацыі ў краіне. Хваліў прэзідэнта і лаяў ворагаў, якія выкарыстоўваюць часовыя эканамічныя цяжкасьці і плятуць палітычныя інтрыгі. Зразумела, ворагамі зьяўляюцца апазіцыя і дэпутаты Вярхоўнага Савету.

Пасьля дакладчык расказаў пра дасягненьні ў прамысловасьці і сельскай гаспадарцы. Агульнае ўражаньне ад дакладу псавала толькі тое, што склады прадпрыемстваў завалены нерэалізаванай прадукцыяй, расьце беспрацоўе, шэраг заводаў і фабрык стаяць на мяжы фінансавага банкруцтва. А большасьць сельскіх гаспадарак Беларусі неплацежаздольныя. Але жыць яшчэ лепей і весялей пачнем, калі прымем лукашэнкаўскую Канстытуцыю.

Па праекце гэтай Канстытуцыі выступаў выкладчык ГрДУ Крывашчокі. Ён, як і старшыня аблвыканкаму, пахваліў прэзідэнта, пашкадаваў аб развале СССР, успомніў рэферэндум 1991 году, прывёў прыклад Кітая і нават нагадаў пра Нюрнбергскі працэс. Але пра Канстытуцыю не сказаў анічога.

Пасьля асноўных дакладчыкаў пачалі браць слова дэлегаты. Усе яны расказвалі пра гарачую любоў народу да Аляксандра Лукашэнкі.

Напрыканцы нарады быў прыняты зварот да выбарнікаў Гарадзеншчыны з просьбай падтрымаць прэзідэнта, які выступае гарантам стабільнасьці і квітненьня нашай дзяржавы.

**Дз.КІСЕЛЬ.**

## СХОД АДАБРАНЦАЎ

**15 кастрычніка ў Лідзе пад старшынствам Аляксандра Дубко адбыўся сход дэлегатаў на ўсебеларускі народны сход ад гарадоў Ліды, Слоніма, Навагрудка, а таксама Лідзкага, Воранаўскага, Іўеўскага, Дзятлаўскага, Шчучынскага, Слонімскага, Навагрудзкага і Карэліцкага раёнаў. Было 266 дэлегатаў, у асноўным, «вертыкальнага» зьвяна. Сход заслухаў даклады А.Дубко і Г.Крывашчокага -выкладчыка ГрДУ, яны тлумачылі сітуацыю ў краіне і праект лукашэнкаўскай канстытуцыі. Слова бралі і выступоўцы ад кожнага гораду і раёну, якія ўсё дружна падтрымвалі. Разам з тым ні Дубко, ні Крывашчокаў, ніхто з выступоўцаў не назвалі ніводнага артыкулу Канстытуцыі. Усё падтрымвалі цалкам. Відочна, што мала хто з іх тую Канстытуцыю бачыў. У прыпынкам пад канец звароце дэлегаты адобрылі нават праграму А.Лукашэнкі па разьвіцьці Беларусі да 2000 году, якая яшчэ не была ў друку. Дарэчы, каля паловы дэлегатаў за зварот не галасавалі, але галасы ніхто не лічыў і прайшло нібыта аднагалосна. На сходзе ў Лідзе было даведзена, што пачатак «курултаю» 19 кастрычніка перанесены на 16.00. Відочна, «вертыкаль» здумала пачакаць, пакуль разыдуцца праклятыя «нацыяналісты», што будуць ладзіць свой мітынг у 10.30. Але, як мне здаецца, «нацыяналісты» дачакаюцца дэлегатаў, якім, нягледзячы на іх службовы стан і пагляды, будзе даволі карысна пасьля замшэлых правінцый глянуць на «рэвалюцыйны» Менск.**

**С.СУДНІК.**

## ПРЭЗІДЭНТ АБНІЗІЎСЯ...

**Служба вывучэньня грамадскай думкі «Vox Populi» супольна з «Независимой газетой» і фірмай «Скарыны», правялі экспертнае апытаньне для вызначэньня рэйтынгу беларускіх палітыкаў у верасьні. Рэйтынг прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі ня толькі зьнізіўся (з 7.41 у жніўні да 6.49), але і ўпершыню за гады прэзідэнцтва аказаўся ніжэйшым за рэйтынг іншага палітыка, старшыні Вярхоўнага Савету Сямёна Шарэцкага.**

У склад эксьпертаў уваходзілі журналісты ды палітолагі асноўных, як дзяржаўных, так і недзяржаўных структураў. Раней на першае мейсца яны заўсёды вылучалі прэзідэнта А.Лукашэнку.

## КАРПЕНКА ТАКСАМА ЗА ІНТЭГРАЦЫЮ

**У перапоўненай зале Маладэчанскага Дому культуры чыгуначнікаў, нягледзячы на спробу ўлады не дапусьціць гэтага, адбылася сустрэча віцэ-сьпікера ВС Г.Карпенкі і экс-міністра ўнутраных спраў Ю.Захаранкі.**

У сваім выступе Г.Карпенка ахарактарызаваў становішча нашай эканомікі як крызіснае, падкрэсьліўшы, што львіная доля віны за яе развал ляжыць на прэзідэнце А.Лукашэнку, які так і ня вызначыўся за 2 гады з эканамічным курсам нашай краіны. У прыватнасьці, з боку Прэзідэнта ў ВС за гэты тэрмін не было пададзена ніводнага законапраекту, які датычыў бы эканомікі. Аб якой нерашкодзе заканадаўчай улады прэзідэнту тут можна казаць? Была зьвернутая ўвага і на заганную аднабаковую вонкавую палітыку, хаця сам Карпенка ня бачыць іншай альтэрнатывы, чым цесная інтэграцыя з Расеяй.

Што да рэдкіх візітаў Лукашэнкі ў «далёкае» замежжа, то сп.Карпенка ахарактарызаваў іх як абсалютна безвыніковыя. Так, крэдыт у памеры 20 млн. даляраў, атрыманы «дзякуючы» прэзідэнту ад Турцыі, пайшоў у колькасьці 18 млн. на фінансаваньне турэцкіх будаўнікоў, а 2 млн. - на закуп будматэрыялаў. Прыпыніўся віцэ-сьпікер і на нашых даўгох, пагашаць якія на патрабаваньне РФ прыдзецца ўласнымі заводамі, фабрыкамі і зямлёй.

Гутарку з маладзечанцамі працягнуў былы міністр унутраных спраў Ю.Захаранка. Ён прывёў шэраг прыкладаў карупцыі ў прэзідэнцкім асяроддзі і ягонную матэрыяльную нясьціпласьць. Праект жа Канстытуцыі, дзе прэзідэнт вызваляе сябе ад адказнасьці па 150 артыкулах Крымінальнага кодэксу, сказаў сп.Захаранка,варты не ўсенароднага ці юрыдычнага разгляду, а толькі экспертызы псіхіятрычнай лякарні.

**Алесь ЦАДКО.**

## З КРЭСЛА Ў КРЭСЛА

«ПАГОНЯ» ўжо пісала аб звальненьні ў Смаргоні намесьніка старшыні гарвыканкаму Генадзя Сафронава за незаконнае атрыманьне двухпакаёвай кватэры, які дагэтуль меў пакой у інтэрнаце і шыкоўны катэдж. Тым часам, загадчык аддзелу адукацыі гарвыканкаму Валеры Бацько сваім распараджэньнем пасадзіў Сафронава ў крэсла дырэктара школы N 3. У зьвязку з гэтым раённая рада БНФ прыняла заяву, у якой выказаны пратэст супраць прызначэньня скампраметаваўшага сябе кіраўніка. «Сафронаў, - гаворыцца ў заяве, - страціў маральнае права ўзначальваць калектыў педагогаў і вучняў, выхоўваць маладое пакаленьне».

Адначасна сярод дэпутатаў гарадзкога Савету вядзецца збор подпісаў з патрабаваньнем вызваліць Сафронава ад пасады кіраўніка школы.

## МЫ ТАК ВАМ ВЕРИЛИ, ТОВАРИЩ ЛУКАШЕНКО!

**Уважаемые жители Гродненщины!**

Более 2 лет назад мы поверили А.Лукашенко и всей душой поддержали его на президентских выборах. Тогда же мы убедили своих знакомых и соседей отдать и их голоса за А.Лукашенко. Прошло 2 года и 4 месяца. И теперь выяснилось, что Лукашенко нас обманул. Он оказался совсем не тем человеком, за которого себя выдавал. Сейчас это очевидно. Мы все до крайности возмущены этим. Кроме того, теперь мы вынуждены снимать грех с души и очищать совесть перед всеми, кого 2 года назад уговорили. Мы признаёмся, что нам стыдно:

- за то, что А.Лукашенко не «запустил» заводы, не уничтожил коррупцию, не вернул утраченные вклады, не остановил рост цен... - не выполнил ничего из своих предвыборных обещаний;

- за то, что и на президентском посту А.Лукашенко продолжал давать обещания, которые не собирался выполнять. Скажите, зачем было ещё в 1994 году обещать, что цены больше расти не будут, что к 20 октября этого года всем будет выплачена вся задолженность по зарплате? Зачем было сажать в «руководящие» кресла кебичевских казнокрадов, которых обещал посадить в тюрьму? Зачем было утверждать, что мы больше не должны России за нефть и газ?..

Нам стыдно, что А.Лукашенко, обещавший жить скромно, сегодня окружен такой роскошью, какую не позволяет себе ни один президент (мерседесы, самолёты, вертолёты, корабли, тенисные корты, резиденции). Мало того. Лукашенко создал себе специальный фонд, куда прячет государственные, а на самом деле наши, деньги (от сдачи в аренду зданий, от продажи оружия, от махинаций с разными фирмами). И всё это, когда миллионы белорусов живут полуголодной жизнью!

Мы очень рассчитывали, что А.Лукашенко - бывший директор совхоза - сможет если не поднять всю экономику, то хотя бы накормить народ, как он обещал. Однако, несмотря на «битвы за урожаи», за 1 кг мяса мы по-прежнему платим в 3 раза больше, чем те же немцы или французы, хотя зарабатываем в десятки раз меньше их! Даже у поляков сало уже в 2 раза дешевле нашего.

За всё это стыдно нам. А почему не стыдно А.Лукашенко? Что с ним произошло? То ли он предал нас - оказался оборотнем, то ли заелся -не выдержал испытания властью, то ли всегда был вруном? Вопреки нашим ожиданиям оказалось, что А.Лукашенко не просто пустослов, как Горбачев, а гораздо хуже - человек, который не может жить без вранья. А еще мы проглядели, что он типичный «летун», который за всю жизнь нигде не задержался и 2 лет - а президентом хочет быть, как минимум, 12.

Среди населения распространяют слух, будто президенту мешают. Но никто не может назвать, кто мешает. На самом деле всё наоборот - все власти перед ним пресмыкаются, а старый и новый Верховные Советы приняли все законы, предложенные президентом, утвердили всех ставленников Лукашенко на государственных постах.

Теперь ясно. Лукашенко - это человек, который не способен создать хто что-нибудь полезное. Если это не так, то пусть сначала выполнит свои обещания, власти у него предостаточно. Ведь еще менее года тому назад в скандальном интервью немецкой газете «Хандельсблат» сам Лукашенко заявил, что в отличие от Гитлера «...в усилении (его) власти нет необходимости... У президента достаточно власти... Наш этап истории отличается от соответствующего этапа немецкой истории тем, что нет необходимости устанавливать абсолютную власть одного человека...» Однако вновь получается - то ли тогда Лукашенко врал, то ли теперь врет, поскольку сегодня утверждает прямо противоположное.

Люди! Неужели и дальше мы дадим себя обманывать?

**Принято на собрании граждан, разочаровавшихся в А.Лукашенко.**

## КАБ ВЫЗДАРАЎЛІВАЛІ ДЗЕЦІ

**Не сакрэт, што сёньня ў бальніцах не стае нават бінтоў, не кажучы ўжо пра замежныя лекі, якія, зрэшты, ёсьць у камерцыйных аптэках і шопіках, але каштуюць вельмі дорага. Пра гэта добра ведаюць у дабрачынным фондзе БНФ «Дзеці Чарнобыля Беларусі», які ўзначальвае жонка Зянона Пазьняка Галіна Вашчанка.**

Сёлета на Смаргоншчыну з гэтага фонду ўжо паступіла гуманітарная дапамога: салодкая сусьпеньзія-антыбіётык шырокага ўжываньня, аўстрыйскае вытворчасьці. Дзіцячаму аддзяленьню тэрытарыяльнага медычнага аб'яднаньня было перададзена 4 400 флаконаў гэтых дэфіцытных лекаў, а таксама 1 600 флаконаў у Залескую сельскую бальніцу.

Днямі такія лекі паступілі з фонду і ў Крэўскую сельскую бальніцу. На гэты раз перададзена 960 флаконаў.

**Віктар ШОЦЬ.**









# ГЭТЫ ТЫПОВЫ БЕЛАРУСКАМОЎНЫ АМЕРЫКАНЕЦ...

**Аб сваім паходжаньні ён кажа так: «Тыповы амерыканец - «грымучая сумесь» нямецкай, ангельскай, нарвежскай і шатландзкай крывей». Пра сваё першае ўражаньне ад Беларусі: «Я адразу зразумеў, што карыстацца вылучна беларускай мовай мне не давядзецца. Прыйшлося «акліматызавацца».**

**Гутарка карэспандэнта «ПАГОНІ» з ведамым амерыкансім беларусістам Куртам Вулхайзерам, які пасьля пяцігадовага перапынку зноў наведаў Гародню.**

***- Сустрэць на вуліцы тыповага амерыканца, які вольна размаўляе па-беларуску, згадзіся, - зьява нетыповая. Адкуль у цябе ўзьнікла цікавасьць да Беларусі, да беларускай мовы?***

- Спачатку я займаўся русістыкай і паланістыкай. Вывучаючы іх, дайшоў да высновы, што расейская і польская культуры сустракаюцца на тэрыторыі Беларусі, краіны, якая, як высьветлілася, мае свае багатыя мову і культуру. Узаемаўплывы ўсіх гэтых культур у Беларусі мяне вельмі зацікавілі.

Яшчэ я займаўся гісторыяй кнігадрукаваньня на ўсходнеславянскіх землях і вельмі быў уражаны, калі даведаўся, што першадрукаром на гэтых землях быў беларус Францыск Скарына.

***- Чаму гэта так цябе зьдзівіла?***

- У Злучаных Штатах славістыка часьцей за ўсё зводзіцца да русістыкі. Менавіта з пункту гледжаньня расейскай гістарыяграфіі разглядаюцца тыя ці іншыя гістарычныя факты большасьцю сучасных амерыканскіх дасьледнікаў. Што ж датычыць моўных пытаньняў, то ў нашых ВНУ беларуская і ўкраінская мовы, у адрозьненьне ад расейскай, ігнаруюцца.

***- Чаму так, на твой погляд, здарылася?***

- Славістыка ў ЗША пачала бурна разьвівацца пад час халоднай вайны. Тады, як той казаў, трэба было ведаць свайго ворага. Дзяржава выдаткоўвала шмат грошай на вывучэньне савецкіх рэспублік. Але вывучалася, у асноўным, Расея, як дамінуючая рэспубліка з дамінуючай у СССР культурай, мовай. Можна сказаць, што амерыканцы паверылі камуністычнай прапагандзе, якая абяцала зьліць усе народы СССР у адзіны расейскамоўны савецкі народ. Таму амаль ніхто з карэнных амерыканцаў не займаўся беларусістыкай.

***- Пачынаць у такіх умовах вывучаць беларускую мову, культуру, гісторыю было, напэўна, цяжка...***

- Займацца беларусістыкай я пачаў дзесьці ў 1989 годзе. Было сапраўды цяжка. Сьпецыяльных навуковых прац на гэтую тэму амаль не было. Да таго ж вучыўся я ў асьпірантуры Індыянскага універсітэту, а беларускай эміграцыі ў гэтым штаце амаль няма. І ўсё ж першага свайго настаўніка з ліку беларускіх эмігрантаў мне ўдалося знайсьці менавіта ў Індыяне. Завуць яго Піліп Манько. Нарадзіўся сп.Манько на Магілёўшчыне. У свой час будаваў Дом ураду ў Менску. У 30-я гады быў арыштаваны. Пасьля вызваленьня з сталінскай турмы настаўнічаў на Смаленшчыне. Пад час вайны трапіў у палон да немцаў. Потым працаваў у маладзежных беларускіх арганізацыях у Слуцку, адкуль выехаў праз Нямеччыну ў Злучаныя Штаты, дзе і выкладаў расейскую мову ў Індыянскім універсітэце. Спадар Піліп шмат расказваў мне пра гісторыю Беларусі і праз гэтыя аповяды я шмат чаго для сябе адкрыў.

***- Першы раз ты прыехаў у Беларусь у 1990-м годзе. Якімі былі першыя ўражаньні ад нашай краіны?***

- У Менску я адразу зразумеў, што карыстацца вылучна беларускай мовай мне не давядзецца. Прыйшлося хутка «акліматызоўвацца». Гэта азначае, што з сябрамі часьцей даводзілася гаварыць па-беларуску, а вось у крамах, на вуліцы - па-расейску.

***- Ты чакаў іншага?***

- У ЗША вельмі мала інфармацыі аб моўнай сітуацыі ў Беларусі. Мяне папярэджвалі, што ў горадзе пераважае расейская мова. Але я зусім не чакаў, што ў такой ступені...

***- Пад час першага свайго прыезду сюды ты займаўся...***

- ...зборам матэрыялаў да дысертацыі па гаворках на беларуска-польска-літоўскім сумежжы, цікавіўся ўзаемапранікненьнем моваў у гэтых раёнах, вывучаў агульную моўную сітуацыю. Вынікам той працы стала абарона ў 1994 годзе дысертацыі «Польскія і беларускія гаворкі ў кантакце». У гэтай працы я разглядаў выпадкі моўных пазычаньняў з пункту гледжаньня новых тэорый моўных кантактаў, якія ўзьніклі ў ЗША ў апошнія гады.

***- Напэўна, у гэтыя пяць гадоў, якія мінулі з часу твайго першага прыезду, інфармацыю пра Беларусь чытаў і слухаў у сябе на радзіме з асаблівай цікавасьцю...***

- З моманту атрыманьня Беларусьсю незалежнасьці - інфармацыі пра падзеі ў вас было вельмі мала. Я лічу, што гэта вынік палітыкі Клінтана ў першыя гады незалежнасьці постсавецкіх краін. Дараднік нашага прэзідэнта па краінах СССР быў вялікім русафілам і лічыў, што галоўнае - спрыяньне дэмакратыі ў Расеі. Беларусь і Ўкраіна разглядаліся як апірышча камунізму, а таму дапамагаць ім ня трэба.

***- Зараз сітуацыя зьмянілася?***

- Зрух адбыўся пасьля забойства ў Беларусі двух пілотаў паветранага шару. Вялікі рэзананс выклікалі таксама вясновыя падзеі ў Менску, зьбіваньне людзей на вуліцах. Пра Беларусь пачалі пісаць як пра краіну, дзе ёсьць парушэньні правоў чалавека, дзе ёсьць пагроза ўсталяваньня дыктатуры. Сёньняшняя сітуацыя ў Беларусі, палітыка А.Лукашэнкі ацэньваюцца ў амерыканскіх сродках масавай інфармацыі вельмі адмоўна.

***- Чым ты займаешся ў Штатах цяпер?***

- Спачатку я выкладаў расейскую мову ў універсітэце Паўднёвай Караліны. Гэта ня вельмі мяне задавальняла, і таму я прыняў прапанову перабрацца ў Тэхас. Там я выкладаю славянскае мовазнаўства, гісторыю славянскіх моваў, структуру расейскай мовы. У наступным навучальным годзе ёсьць магчымасьць выкладаць уводзіны ў беларусістыку і я гэтаму вельмі рады.

***- З чым зьвязаны твой новы прыезд у Беларусь?***

- Я распачынаю соцыялінгвістычныя дасьледаваньні гаворак Заходняй Гарадзеншчыны і Ўсходняй Беларусі. Мяне цікавіць, як разьвіваюцца гэтыя гаворкі ў розных сацыяльна-палітычных умовах, бо калісьці яны складалі адзіную паўночна-заходнюю зону беларускіх гаворак. У выніку праведзенай пасьля вайны мяжы па цэнтры гэтай зоны - адбыліся істотныя зьмены. З аднаго боку мяжы быў уплыў русіфікацыі. З другога - паланізацыі. Мяне цікавіць, наколькі ў гэтых умовах захаваліся архаічныя рысы гаворак, а таксама - якія сацыяльныя фактары (адукацыя, прафесія, пол і г.д.) уплываюць на захаваньне гэтых рысаў. Заходнія соцыялінгвісты, прыкладам, сьцьвярджаюць, што жанчыны хутчэй пераходзяць з «менш прэстыжнай» мовы на «больш прэстыжную». Пад час знаходжаньня на Гарадзеншчыне буду зьвяртаць увагу і на гэтую акалічнасьць. Раз у Беларусі вельмі вялікі ўплыў на жыцьцё грамадства робіць рэлігійны фактар, то свае дасьледаваньні я правяду ў дзьвюх каталіцкіх і дзьвюх праваслаўных вёсках на Гарадзеншчыне, у дзьвюх каталіцкіх і дзьвюх праваслаўных вёсках на Беласточчыне.

***- Твая сёлетняя праца тут стане падставай...***

- ...для стварэньня манаграфіі пра соцыялінгвістычныя аспэкты разьвіцьця гаворак Гарадзеншчыны і Беласточчыны.

Да ўсяго сказанага ў гэтай гутарцы дадамо, што ў жніўні ў Курта і яго жонкі Ганны нарадзіўся сын - Даніла Вулхайзер, з чым усе беларускія сябры шчыра віншуюць «тыповага амерыканца» Курта Вулхайзера.

Дарагія чытачы «Пагоні»!
Жадаю ўсім усяго найлепшага, плёну ў працы і шчасця ў жыцці.
Хай квітне вольная, дэмакратычная Беларусь!
ад тэхаскага сябра
Курт Вулхайзер

**Гутарыў Вітаўт РУДНІК.**

# ДВА ПРЭМ'ЕРЫ І ДВА ДЫРЭКТАРЫ

**У мінулую суботу ў Рымдзюнах, што Астравецкага раёну, адбылося адкрыцьцё новай сельскай школы. Падзея, у наш час, увогуле рэдкая, а гэта - пакрытая мрокам урадавых і дыпламатычных таямніцаў...**

Легенды (вельмі пэўныя) кажуць, што ў часы «разьвітога» сацыялізму ў Рымдзюнах (здаецца, на паляваньне ці як) завітала высокае літоўскае начальства разам з беларускім. Расклаўшы на капоце лімузіну закуску, начальства так прасяклася хараством навакольнага асяроддзя, што - раз тут жывуць літоўцы! - надумала аддзячыць вёсцы - пабудаваць літоўскі культурны цэнтр. Чыноўнікі тады грошай налогаплацельнікаў не лічылі, Таму неўзабаве ўзьняліся сьцены школы, клубу, сталоўкі, кацельні, пякарні, пошты, жылых дамоў. Заклалі таксама падмурак пад плавальны басейн...



Фота М.АНІШЧАНКІ

А потым «процесс пошел». Развал, інфляцыя... А ў будоўлю ўжо былі ўбуханы мільёны даляраў, у асноўным з літоўскага боку. І расказана пра гэта па ўсім сьвеце.

Пабылі тут і С.Шушкевіч, і В.Ландзбергіс, ды так нічога і не пастанавілі. У мінулым яшчэ годзе ў чарговы раз прыехалі літоўскі і беларускі прэм'еры. Пахадзілі, пераступаючы праз быльнёг, паўздыхалі... Да таго ж, даведаліся, што цэнтр будавалі па-партызанску - без праекту, без адвядзеньня зямлі, без каштарысу. Была нават услых і ў друку выказана думка: кінуць гэта ўсё, разабраць, дэмантаваць, прадаць і забыцца.

Але ў цэнтры мусіла быць школа, якой хацелі дзеці. Да гонару чыноўнікаў, яны гатовыя хлусіць выбарнікам, электарату, «чэсным» і «нячэсным», але пасароміліся хлусіць дзецям. Таму паступіў загад, і з Вільні, і з Менску: кроў з носу, а школу трэба закончыць.

Летува дала грошы (недзе трэцяя частка мільёну даляраў), Беларусь узгадніла фармальнасьці. Будаўнікі з Ігналіны ня спалі праз цэлыя ночы. І хаця да 1 верасьня не пасьпелі, але 12 кастрычніка школу адкрылі. На адкрыцьці прэм'еры, М.Станкявічус і М.Чыгір, пасадзілі два дубкі ў школьным двары (**на здымку**). А жонка літоўскага прэм'ера падарыла школе малюнак з выяваю віленскай Вострай Брамы. Заступніцы мучанікаў. З тонкім значэньнем падарунак!

Такім чынам, школа прыступіла да заняткаў. Трэба сказаць, што літоўскі бок, які аплаціў усе расходы, неаднакроць падкрэсьліваў: гэта будзе школа не для літоўцаў, а для ўсіх жыхароў Рымдзюнаў і навакольля. Так яно і сталася: апрача літоўскіх класаў тут ёсьць і беларускія. Звыш таго, у школе - 2 дырэктары, літовец і наш. Увогуле, зьмешаных школ у нас ня шмат, але ў іх зазвычай адзін дырэктар. Ведама, што ў адной кухні дзьве гаспадыні не зжываюцца. Але і літоўскі дырэктар, Генрыкас Поцюс, і беларускі, Аляксей Сібірцаў, на адзін голас божацца, дзей яшчэ не нарадзіўся і ніколі не народзіцца той чорны кот, які прабяжыць паміж імі. Міжволі згадваецца Горадня часоў Магдэбурскага права, калі горадам супольна кіравалі два бурмістры: праваслаўны і католік. І нічога, квітнелі. Здаецца і тут будуць квітнець, калі толькі прэзідэнт за гэтае вальнадумства ня здыме кіраўніка Астравецкага райвыканкаму, спадара Кудзірку, як «за ліцэй» зьнялі Крупенку.

Файная гэта школа! Нідзе больш у Беларусі такіх сельскіх школ няма і доўга яшчэ ня будзе. Агульнае ўражаньне азмрочваюць толькі паўруіны ўсіх астатніх распачатых і няскончаных будынкаў цэнтру. Такая школа ня можа жыць у чыстым полі. Патрэбная, як той казаў, інфраструктура. Летува абяцала на днях пералічыць яшчэ чвэрць мільёну даляраў. Магчыма, пасьля...

Дапамажы, Маці Божая Астрабрамская!

**Лявон ДАЎГЯЛА.**

# ВАНГА ПАМЫЛЯЛАСЯ РЭДКА

***"Ужо неаднаразова даводзілася чуць ад людзей, што яшчэ перад выбарамі ведамая балгарка Ванга праесьціла групе беларускіх пісьменьнікаў: «Прэзідэнтам Беларусі стане малады чалавек не з наменклатурнай эліты. Ён будзе кіраваць 2 гады і 4 месяцы». Ці ёсьць у рэдакцыі інфармацыя аб праўдзівасьці гэтага факту?"***

**В. Іваноўскі**

У нас няма інфармацыі, ці адбылася такая сустрэча нашых пісьменьнікаў. Мы можам пацьвердзіць толькі праўдзівасьць таго, што ў 1994 годзе да ўлады прыйшоў новы чалавек. Нагадаем: 2 гады і 4 месяцы кіраваньня А.Лукашэнкі сканчаюцца сёлета 10 лістапада (калі лічыць ад даты выбараў) або 19 лістапада (калі лічыць ад дня заступленьня на пасаду). Што ж ... Пажывем - пабачым. Што да спадарыні Вангі, дык год і нават дату сваёй сьмерці яна praракавала зусім дакладна.

# КРЫЖАВАНКА



*Перакладзі на беларускую мову*

**Склала С.ДОСТА**

**Па гарызанталі:** 5.Осадки. 6.Картофель. 8.Браслет. 11.Избыток. 14.Отсчет. 15.Зародыш. 16.Прогалина. 17.Затемнённое место. 20.Молния. 21.Басня. 23.Ссора. 26.Исполнитель. 27.Усадьба. 28.Лента.

**Па вертыкалі:** 1.Обочина. 2.Сокровище. 3.Аист. 4.Бор. 7.Прясло. 9.Странствования. 10.Единство. 12.Заря. 13.Малиновка. 18.Хворостина. 19.Батрак. 21.Отметка. 24.Ковёр. 25.Угнетение.

**Адказы на крыжаванку, зьмешчаную ў папярэднім нумары:**

**Па гарызанталі:** 7.Процівага. 8.Падручнік. 9.Абарона. 11.Страва. 12.Паліца. 14.Дазорац. 17.Засаўка. 17.Астанне. 19.Кіпень. 20.Трасца. 24.Выпадак. 15.Куродым. 26.Алешына. 31.Святло. 32.Крыжак. 33.Гаркота. 34.Знікненне. 35.Могільнік.

**Па вертыкалі:** 1.Прыстанак. 2.Ліштва. 3.Згібіна. 4.Даўніна. 5.Кумпал. 6.Зіхаценне. 10.Разора. 13.Расклад. 14.Даведка. 15.Цацарка. 16.Радавод. 21.Цыраванне. 22.Вішняк. 23.Выгнаннік. 27.Латанне. 28.Настрой. 29.Блізня. 30.Кропля.




**19 кастрычніка**

**1890 г.** Нарадзіўся Сяргей Палуян, выбітны публіцыст, празаік, літаратуразнавец. Ведамы як дзейсны «нашанівец».

**1988 г.** У Менску было ўтворана гістарычна-асьветнае таварыства памяці ахвяраў сталінізму «Мартыралог Беларусі» і аргкамітэт БНФ «Адраджэньне».

**20 кастрычніка**

**1911 г.** У Карэлічах нарадзіўся Валяньцін Рамановіч (85 гадоў таму), знаны малявальнік, графік.

**1947 г.** У вёсцы Горна на Зэльвеншчыне нарадзіўся Юрка Голуб, знаны сучасны паэт.

**21 кастрычніка**

**1917 г.** Зьявіўся першы нумар газеты «Беларуская крыніца» - органу беларускай хрысьціянскае дэмакратыі - друкавалася кірыліцай і лацінкай, выходзіла да чэрвеня 1940 г., неаднаразова забаранялася.

**1935 г.** У Зэльве нарадзіўся Юрка Геніюш (сын Ларысы Геніюш). Ведамы як пісьменьнік.

**22 кастрычніка**

**1918 г.** У вёсцы Даўгінава (Карэліцкі раён) нарадзіўся Алесь Бажко, руплівец беларускае культуры, пісьменьнік.

**1937 г.** У вёсццы Сакольнікі на Астравеччыне нарадзіўся Іван Граблеўскі, публіцыст і журналіст, які працаваў на Гарадзеншчыне.

**23 кастрычніка**

**1924 г.** Нарадзіўся Іван Лепешаў, выбітны сучасны мовазнавец, доктар філалагічных навук, аўтар слоўнікаў і манаграфій.

**24 кастрычніка**

**1795 г.** Адбыўся трэці падзел Рэчы Паспалітай. Міжнародны дзень ААН.

**Падрыхтаваў Ул.ХІЛЬМАНОВІЧ.**

